# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА 6 ГОД ВЫДАНЬНЯ

1932 г. Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ


Гэты нумар часопісі — антырэлігійны. Матар'ял гэтага нумару скарыстайце ў час кампаніі супроць папоўскага „вялікадня“, за бальшавіцкую сяўбу.

Падрыхтуйце антырэлігійны вечар у час „вялікадня“. Развучэце п'ескі, якія надрукаваны. Паставіць іх вельмі лёгка.

На вечары можна наладзіць дэклямацыю і чытаньне кароценькіх мастацкіх твораў. Многа матар'ялу для дэклямацыі і чытаньня зьмешчана ў часопісі. Можна падабраць творы на гэтую тэму і з іншых выданьняў. На вечар запрасеце сваіх бацькоў.

У школе і групе акцябрат патрэбна выдаць насьценныя газэты, прысьвечаныя антырэлігійнай кампаніі. Правядзеце гутаркі аб бальшавіцкай вясьне і ворагах нашага будаўніцтва.

Будзем усе ўпарта змагацца супроць рэлігіі, за пяцігодку!


Адрас рэдакцыі і канторы:
МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.


## ЗЬМЕСТ





# супроць рэлігіі

# ЗА ПЯЦІГОДКУ

Мы рыхтуемся да ўдарнай бальшавіцкай вясны. Ня дрэмлюць і нашыя ворагі—поп, кулак, падкулачнік і іншыя. І яны рыхтуюцца да вясны. Ды яшчэ як рыхтуюцца, каб сарваць нашу работу, пашкодзіць выканаць вялікія пляны сяўбы, пашкодзіць працы на заводах.

Яны пускаюць у ход розную хлусьню, страшаць рабочых і калгасьнікаў богам. Яны рыхтуюцца да папоўскіх сьвят—„вялікадня“, „Юр'я“ і іншых.

Гэтыя „сьвяты“, таксама як і багі — выдумка папоў, выдумка багатых. Выдумалі ўсё гэта вельмі даўно, каб трымаць у пакоры бедных.

Навука выкрыла ўсе гэтыя „сьвяты“ і „багоў“: хто яны і для чаго яны выдумляліся.

Ужо нават і дзеці ведаюць, што багі і папоўскія сьвяты — гэта казкі, створаныя багатымі і папамі розных масьцей.

Але ад старога ладу ў нас асталіся моцныя перажыткі. Многа хто яшчэ верыць у такія казкі. А папы і кулакі карыстаюць з гэтага. Яны пры дапамозе выдуманых сьвятаў, розных забабонаў выступаюць супроць новага жыцьця. У дні сьвят яны будуць старацца адцягнуць працоўных і іх дзяцей ад работы.



Мы ўсе павінны дружна выступіць супроць папоўскага „вялікадня“, змагацца супроць нашых ворагаў, змагацца за пяцігодку вялікага будаўніцтва.

Д. БЕДНЫ

# ПАВУКІ І МУХІ

Дзілі-бом!.. Дзілі-бом!..
Стаіць цэркаў—божы дом,
А ў тым доме—павучок,
Павучок-крыжавічок,
Павучок на сем пудоў,
„Усё ад праведных трудоў".
І, націснуўшы клабук,
Ухмыляецца павук
Ды ўсё звоніць цэлы дзень:
Дзелень-дзень!.. Дзелень-
дзень!..

*

Павук весела жыве,
Сабе сетачку снуе,
Ды у сетку ловіць мух:
Баб старэнькіх, маладух,
І падлеткаў, і дзядкоў—
Усіх набожных мужыкоў.
Мухі жаласна гудуць,
Павуку дары нясуць,
Запаўняюць божы дом.
Дзілі-бом!.. Дзілі-бом!..

*

Ай вы, братцы мужыкі,
Ай вы, братцы беднякі,
А даўно вам павуку
Даць пара-бы па баку.
Вашы душы ён „спасаў",
Вашу кроў павук смактаў
Ды вугняў, раскрыўшы рот:
—„І дурны-ж у нас народ!"



# ІЛЬЛІЧ СУПРОЦЬ БОГА



*Навука даўно выкрыла рэлігійныя выдумкі.*

*Мы павінны ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА І ВУЧЫЦЦА — такі наказ пакінуў нам тав. Ленін. Бо толькі навука вызваляе чалавека ад перажыткаў старога.*

**Было гэта ў Петраградзе ў першыя гады рэвалюцыі. Да Ільліча прышлі старыя сяляне даведацца пра зямлю. Пагутарылі з Ільлічом і выходзіць ужо сабраліся. Толькі ля парогу затрымаліся: відаць, нешта яшчэ сказаць хочуць.**

**— Вы чаго, таварышы?—пытаецца Ільліч —Кажэце сьмела.**

**— Вось запытацца хацелі,—нерашуча пачынае адзін з іх,— чалавек ты, бачым, добры... за нас стаіш. Ды ўвесь ты наш. А толькі кажуць, што ты ў бога ня верыш і ня молішся ніколі. Праўда гэта?**

**Ленін усьміхнуўся і адказаў:**

**— Грэшны гэтым: у бога ня веру і дарагога часу на папоўскія малітвы ня трачу. Ды і вам ня раю. А чаму так—садзецеся, растлумачу.**

**І Ленін пачаў тлумачыць старым сялянам пра папоўскія выдумкі.**

**Праз гадзіны паўтары выйшлі сяляне ад Ільліча.**

**Нібы мя тыя гэта былі людзі!**

**— Але доўга і лоўка нас дурманілі богам, — сказаў адзін з іх.—Цяпер тольк праўды даведаліся.**

**— Сьляпыя мы былі,—як краты,—сказаў другі.**

**— Да хаты прыдзем,—рашуча сказаў трэці,—папоў разам з абразамі павыкідаем. Годзе народ дурыць!**

# папоўскія цуды

**Каб лепш адурманьваць працоўных, папы і ўсе богавы служкі прыдумляюць розныя „цуды“. Цёмныя, несьвядомыя людзі часта пападаюць на вудачку папоў — вераць у гэтыя „цуды“.**

**Якіх толькі „цудаў“ не выдумляюць папы! Усякімі спосабамі стараюцца яны зацямняць галовы працоўных.**

**Папы разам з кулакамі змагаюцца супроць калектывізацыі. Яны ўгаварваюць беднякоў і сераднякоў: „ня ідзеце ў калгас, бог пакарае“. Але мала хто іх слухае. Тады кулацтва з папамі выдумляюць „цуды“.**

**Вось як пралетарскі пісьменьнік П. ГАЛАВАЧ апісвае адно такое „цуда“ ў сваёй аповесьці „СПАЛОХ НА ЗАГОНАХ“. Гэта „цуда“ выдумалі папы з кулакамі, каб пашкодзіць калектывізацыі ды вярнуць сабе ранейшае панаваньне.**

## УРЫВАК З АПОВЕСЬЦІ

**П. Галавач**

Увечары, калі густыя змрокі надышоўшай ночы агарнулі спакоем і маўклівасьцю вёску і поле, на хутар да Мышкіна прышлі двое мужчын. Адзін з іх падышоў да акна і тры разы стукнуў у акяніцу. Хутка за гэтым бразнула клямка хатніх дзьвярэй, адсунуўся запор у сенцах і на двор вышаў сам гаспадар.

Усе трое яны адышлі пад павець і селі там на дошках.

Усё наўкола так і дыхае глыбокім спакоем. У гэтым спакоі глухнуць і зьнікаюць усе гукі і цішыня ад гэтага здаецца насьцярожанай. З-пад павеці плывуць ціхія мяккія шэпты трох галасоў. Калі-б іх пачуў хто блізка, ён пазнаў-бы знаёмыя галасы Мышкіна і Гарбуля Захара і адрозьніў-бы нейчы зусім чужы, нячуты раней голас. Усе трое гавораць па чарзе.

Гарбуль: — Я прынёс ад бацюшкі эвангельле. Старое, невялічкае, у самы раз.





Мышкін: — А вопратка як у вас?

Незнаёмы:—Акурат пад жабрака.

Мышкін: — Дык трэба сёньня-ж пайсьці і прасіцца да каго кольвеч нанач.

Незнаёмы:—Трэба ісьці ў хату, дзе старыя.

Гарбуль:—Я пакажу да каго пайсьці.

Мышкін:—Толькі, каб, барані божа, не пазналі, што нарошна. Трэба ня вельмі, каб гаварыць, а лепш іх распытаць пра жыцьцё і намякнуць так-сяк на адно-другое. Калі запытаюць адкуль, скажаце, што з камуны і больш не гаварэце, а як прыставацьмуць, скажэце, што боязна праўду казаць, каб не палічылі дрэнным чалавекам.

Незнаёмы: — Я гэта ведаю. Ты пра гэта не кажы. Я паначую і яшчэ заўтра раніцою прайдуся па хатах, прасіць буду. А вы раніцою прыходзьце навіны праведаць і старайцеся, каб ніхто не пайшоў на сход. Гэта, калі ня выйдзе справа з заявамі.

Гарбуль:—Я думаю, што выйдзе. Ужо некаторыя гаварылі пра гэта.

Мышкін:—Абавязкова раскажэце, як высяляюць, што высяляюць усіх, хто хоць крышку гаспадар.

Гарбуль:—Эвангельле бацюшка раіў чытаць толькі сабе, а ім толькі тады, як папросяць. А каб зацікавіліся, дык чытаць



так, каб чулі і не разьбіралі слоў, паціху, тады абавязкова папросяць.

Мышкін: — Як пойдзеце, я праз мінут дзесяць на хвоі буду званіць, нібы ў адзін звон на хаўтурах. Гэта акурат ля царквы. А вы, як пачуеце звон, адразу стукайце ў вакно, будзеце, каб пачулі. Запытайце, чаго ноччу ў царкве звоняць...

Незнаёмы:—Каб не ўгадалі, што ў рэйку гэта?

Мышкін:—Ня бойцеся! Спрасоньня ды ноччу, спалохаюцца. А нашы званы акурат як рэйка звоняць.

Незнаёмы:—Тады добра. Ты толькі не звані вельмі доўга, каб не праверылі, бывае, пабягуць да царквы.

Гарбуль:—Варта сказаць, дзе будзеце, што перад вайною званы на званіцах самі як на хаўтурах званілі...

Незнаёмы:—Гэта добра, удала сказана.

Мышкін:—Да царквы ноччу не пабягуць, а вось раніцою варта намякнуць ім, каб пайшлі праверыць, ці не званіў хто нарошна, ці няма сьвежых сьлядоў. Яны пойдуць, а сьлядоў ня будзе.

Незнаёмы:—І гэта вельмі ўдала. Пара ісьці.

Мышкін:—Пара. Як рабіць—вы самі ведаеце.

Незнаёмы:—Не палохайся. Зраблю, што трэба.

Гарбуль з Незнаёмым пайшлі праз поле ў вёску. Мышкін пастаяў крыху на ганку і вярнуўся ў хату.

# ЯК АНТЭК стрэў „вельканоц“

**Царкоўныя сьвяты прыносяць вялікую шкоду працоўным. Ад гэтага карысьць толькі нашым клясавым ворагам. Мы павінны ўпарта змагацца супроць усялякіх папоўскіх сьвятаў і забабонаў, за новы культурны быт!**

Антэк „горкай“ налупіўся,
Потым з жонкаю схапіўся
І гуляў з ёй „кракавяку“,
Потым поўзаў Антэк ракам,
Потым лёг, нагамі дрыгаў,
Потым зьезьдзіў двойчы
ў „рыгу“...
А назаўтра ўстаў
з пахмельля,—
Праклінае Антэк „зельле“:
Ўсё баліць—нібы пабіты,
Лоб, як волавам наліты,
Хлеў сьвіны зрабіўся з рота—
Нават есьці неахвота.
Пуста, моташна у хаце,
Малака няма дзіцяці,
Ні скарынкі няма хлеба,—
Жабраваць, ня йначай, трэба.

КРАПІВА



# ЦАРКВА НА СЛУЖБЕ Ў БУРЖУАЗІІ

У буржуазных краінах мільёны беспрацоўных рабочых. Рабочыя і іх дзеці галадаюць. Але ня толькі галадаюць, а ўсё больш і больш арганізуюцца супроць буржуазіі. Паўстаюць за сваю Савецкую ўладу, дзе ня будзе голаду, жабрацтва, прыгнёту.

Як-жа адносіцца да гэтага царква?

Яна—супроць рабочых. Яна — разам з буржуазіяй. Папы ўсіх масьцей угаварваюць рабочых пакарыцца такому жыцьцю. Яны страшаць працоўных богам, пеклам. Яны затрымліваюць рэвалюцыю.

А самы галоўны з гэтых папоў—папа рымскі—арганізуе паходы супроць Савецкай краіны. Ён разам з буржуазіяй хоча ў крыві затапіць нашу краіну, дзе ўлада знаходзіцца ў руках працоўных.

Папа рымскі выдумляе цэлыя малітвы супроць бальшавікоў.

Просіць бога, каб пакараў Саветы.

Але няхай сабе моліцца папа рымскі!

А мы будзем упарта працаваць. Мы будуем і будзем будаваць новае жыцьцё без багоў, папоў і буржуазіі.

За нас працоўныя ўсяго сьвету. Хлусьня і малітвы папы рымскага ўсё менш і менш знаходзяць сабе прыхільнікаў сярод рабочых.

Рабочыя ўсяго сьвету ўзьнімаюцца супроць усіх сваіх ворагаў, за Савецкую ўладу на ўсёй зямлі.



*Царква на чале з папам рымскім рыхтуе вайну супроць Саветаў*

# ШКОЛА ХЛУСЬНІ І ЗЬДЗЕКАЎ

Апавяданьне Ал. Пальчэўскага
Малюнкі Л. Зданоўскай

*(З жыцьця вучняў Заходняй Беларусі)*

**Школа ў буржуазных краінах пастаўлена на службу багатым. „Закон божы“—самы галоўны прадмет у буржуазных школах. Папы сваімі казкамі пра бога зацямняюць галовы дзяцей працоўных. Школа ставіць сваёй задачай — выхаваць з дзяцей пакорлівых служак буржуазіі. Хлусьня, заместа сапраўднай навукі, і зьдзекі пануюць у школах прыгнечанай фашыстамі Заходняй Беларусі.**

**Толькі пралетарская рэвалюцыя вызваліць працоўных ад прыгнёту буржуазіі і ад папоўскага дурману.**

Два разы на тыдзень—у суботу і сераду—вучні трэцяй групы Паласьнёўскай школы займаюцца „законам божым“. Гэту лекцыю праводзіць сам Паласьнёўскі поп. Ён прыходзіць заўсёды ў доўгім падрызьніку, у наваксаваных ботах, з крывулькаю ў правай руцэ, на галаве яго шапка-камілаўка. Ходзіць ён размашыстай хадою, пастукваючы крывулькаю аб зямлю. А як толькі адчыніць дзьверы школы — усе вучні павінны ўстаць і прывітаць свайго „духоўнага настаўніка“.

Невясёлы прышоў сёньня поп на лекцыю. На прывітаньні вучняў нічога не адказаў, толькі абвёў вачыма ўсіх і буркнуў злосна праз зубы:

— Садзецеся!

Пераглянуліся вучні паміж сабою. Нічога адзін другому не сказалі, а шмат хто з іх падумаў: „Трэба сьцерагчыся, каб яшчэ горш не ўзлаваць“.



Цішыня настала ў школе. За ўсімі рухамі папа пільна сочаць вучні. Яны добра вывучылі за тры гады айца Грыгора. Уся школа ведае, што пры такім настроі папа, як сёньня, ня можна ні зварухнуцца, ні моцна загаварыць. Вось таму і думае сам сабе Міхаська: „Ці не напаткаў бацюшка зноў Петрыка?“



Петрык лічыўся ў Паласьні найбольшым грамацеем. Ён шмат чытаў кніжак і аднаго разу гутарыў з папом пра стварэньне сьвету.

— У нутры тваім знаходзіцца нячысты дух. Ты пачынаеш думаць, ці праўда, што бог стварыў сьвет, а чалавеку пра гэта „разважаць не дазваляецца.



Тады расьсьмяяўся на ўсю Міронаву хату Петрык:

— О, гэта хітра прыдумана: веруй у законы, а ці правільныя яны — ня думай, не разважай.



Больш поп ня стаў гаварыць тады з Петрыкам. А пры сустрэчы заўсёды адварочваўся ў другі бок, напаў-

няючы сваё нутро злосьцю. Каля школы сёньня зноў сустрэў поп Петрыка...

Уздоўж скамеек ходзіць па школе айцец Грыгоры. Скрыпяць струхлелыя дошкі падлогі пад яго нагамі. З пад шырокай палы падрызьніка дастаў ён доўгі грэбень з ручкай і расчэсвае ім шырокую густую бараду на азызлым твары.

Праз тры-чатыры хвіліны пачалася здача заданьняў. Першым выклікае айцец Грыгоры Міхаську. Сёнешні Міхаськаў адказ усьцешыў папа. Яго твар паволі праясьняецца.

— Ты малайчына, не такі як твой брат,—хваліць ён адзінаццацігадовага Міхаську і выклікае ўсьлед за ім Міколку.



— Ну, а ў цябе як з малітваю? Раскажы мне „отчэ наш“.

Міколка ўстае і пачынае:

— Вотча наш іх жа ясі на небе ўсіх.

Раптоўна перапыняе поп Міколку. Твар яго зноў робіцца чырвоным, ён кусае свае мясістыя губы і падыходзіць да Міколкі.

— І саўсім-жа ня „іх жа ясі на небе ўсіх“. Не насьміхайся над богам! Пяць разоў я вучыў цябе, як правільна гаварыць, а ты ўсё сваё цьвердзіш. Ня слухаеш айца духоўнага,— настаўляе поп і круціць гэтым часам Міколку за вуха.

Трашчалі ў Міколкавым вуху храсткі, сыпаліся з вачэй іскры праз пякучыя сьлёзы, а поп усё навучаў-

У левай руцэ ён пакручваў срэбны крыжык на доўгім ланцужку, а з правай ня выпускаў Міколкавага вуха.

А як здаволіўся, са злосьцю сказаў:

— Садзіся, дурніца. Ніяк не навучыш іх правяднаму слову божаму.

Сеў Міколка на скамейку, увабраў у жменю ружовае вуха і расплакаўся.

У гэты час Міколкаў таварыш, што сядзіць з ім побач, голасна гаворыць:

— Гэта-ж у цябе кроў на шчацэ?

— Ідзі вымыйся,—дазваляе Міколку поп, і ў гэту-ж хвіліну дадае, робіць ласку:

— А можаш і саўсімісьці дахаты, усё роўна з цябе нічога ня будзе.

Як вышаў Міколка за дзьверы, поп пахадзіў трохі злосна па клясе і распачаў гаварыць пра патоп.

— 40 дзён і 40 начэй ліў бесьперасьціханку дождж. Самыя высокія горы былі заліты вадою. Усе людзі за грахі свае патапіліся. Толькі Ной адзін з сям'ёю быў выратаваны і плаваў у каўчэзе па неасяжных прасторах вады. Доўга бушаваў патоп, а як спала вада, каўчэг спыніўся на гары Арараце.

— А скажэце, бацюшка, куды дзелася тая вада?—спытаў Міхаська, якога пахваліў на сёняшняй лекцыі поп.

— Вада тая сьцякла ў акіяны,—упэўнена адказаў поп.

— Наш Петрык казаў, што ў акіянах і свае вады было поўна. Ён казаў, што патопу ніякага ня было, а ўсё гэта выдумкі і казкі.

— Ваш Петрык вельмі ґраматным зрабіўся,—ускіпеў „духоўны“ настаўнік.

— Ён кожны вечар кніжкі чытае,—дадаў спакойна Міхаська да сваіх ранейшых слоў.

— Гэтыя кніжкі загубяць твайго брата. Ты ня слухай яго чытаніны! У яго нутры знаходзіцца нячыстая сіла.

І ў гэты-ж момант зьвярнуўся да ўсяе групы:—Ніхто з вас, дзеці, ня слухайце таго, што гаворыць Петрык. Слухаць

трэба тое, што я кажу, бо я веру ў бога,—лісьліва ўгаварваў поп вучняў.

Але тут здарылася нечаканасьць для айца Грыгора.

— Як-жа верыць, калі вы гаворыце няпраўду?—загаманілі дзеці.

— Вы не адказалі нам, куды дзелася вада пасьля патопу,—дамагаліся вучні свайго. З кутка прабіваўся прыдушаны сьмех дзяцей.

Як громам аглушылі гэтыя словы папа. Усхапіўся ён з крэсла, загрымеў па падлозе сваімі наваксаванымі ботамі і выбег з школы.

Праз хвіліну зьявіўся настаўнік.

— Што за бунт у маёй школе? Хто супроць айца духоўнага выступаў?

— Мы нічога...

— Мы толькі спыталі...

— Ведаю я вашы запытаньні. Станавецеся на калені, д'яблы!—скамандаваў ён гучным голасам.—Бязбожнікі паганыя! Як пастаіцё на каленях да ночы, дык будзеце ведаць як абражаць сваімі паводзінамі айца духоўнага!

Так скончылася лекцыя „закону божага".



# ГАЗЭТА юных бязбожнікаў

## НІВОДНАГА ПРАГУЛУ Ў ДНІ ПАПОЎСКІХ СЬВЯТ!

Надыходзіць папоўскае сьвята „вялікдзень“. На зборы групы мы гаварылі пра шкоднасьць „вялікадня“ для працоўных.

Мы пастанавілі:

У дні папоўскага сьвята ўсе павінны быць у школе.

Арганізаваць гурток юных бязбожнікаў.

Усім добра вучыцца.




ПЫТАНЬНЕ БЯЗБОЖНІКУ БОРУ: „ЧАМУ СЯСТРА БОРЫ Ў ЦАРКОЎНЫМ ХОРЫ?“




*Грышка загультаіў. Не хацеў вывучаць заданьня. Бабка Луцэя параіла Грышку:*

*— Кладзіся спаць і падлажы пад галаву кніжку. На заўтра ўстанеш—усё будзеш ведаць.*

*Грышка паверыў бабцы—так і зрабіў.*

*А як выклікаў яго назаўтра настаўнік да дошкі, дык нічога і ня ведаў Грышка.*

*— Ну,—кажа Грышка,—цяпер ні ў якія бабскія забабоны ня веру я. Каб вывучыў заданьне, тады-б ведаў.*




## НА ЧОРНУЮ ДОШКУ

Нядаўна было папоўскае сьвята „грамніцы“. Хуліганы з калгасу „Новы шлях“ Сымон і Юрка напіліся, прышлі ў школу і паламалі 4 скамейкі.

Ганьба хуліганам-п'яніцам!




ДАРМОВЫ ДАДАТАК ДА ЧАСОПІСІ „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ № 19



# Дзьве Школы



П'ЕСКА Ў ДЗЬВЁХ ДЗЕЯХ

Прымаюць удзел:

**МАЦІ 1-я**
**МАЦІ 2-я**
**ДЗЯЎЧЫНКА 1-я**
**ДЗЯЎЧЫНКА 2-я**
**ХЛОПЧЫК 1-ы**
**ХОПЧЫК 2-гі**

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

**Першая дзея адбываецца ў 1910 годзе. Пакой вельмі бедны. У кутку вісіць абраз. Маці і дзяўчынка адзеты бедна. Хлопчык адзеты ва ўсё новае, шапка ў яго з спрунжынаю ў сярэдзіне.**

**Бацькі дзяўчынкі служаць парабкамі ў бацькоў хлопчыка.**

**Дзея адбываецца перад экзаменамі.—дзеці канчаюць пачатковую школу.**

*Дзяўчынка сядзіць за сталом каля адчыненага акна. На стале стаіць міска з страваю, у ёй ложка. Каля міскі ляжыць някранутая луста хлеба.*

**Дзяўчынка** (*хістаецца ўсім целам і вымаўляе словы адным і тым-жа тонам*). У Ноя было тры сыны: Сім, Хам і Афет... Хам, Сім і Афет.. Ной пракляў Хама, а Сіма і Афета благаславіў. Благаславіў і сказаў (*чуваць стук за дзьвярыма*)... і сказаў...

**Маці** (*уваходзіць з надворку*). Я табе, дачушка, кажу: еж ты сягоньня.

**Дзяўчынка** (*пакрыўджана*). Не перашкаджайце...І сказаў: усё ваша патомства, усё ваша патомства размножыцца па зямлі, размножыцца...

**Маці** (*падыходзіць бліжэй да стала*). Бяда мне з няперашнім патомствам. Ну, хай-бы ты хоць трошкі зьела. Як-жа ты жыць будзеш?

**Дзяўчынка** (*кладзе закон божы на стол і бярэ граматыку*). Мамачка, не назаляйце з ядой. Вы, мусіць, хочаце, каб я не здала экзамену?

**Маці** (*адыходзіць ад стала*). І дома не ясі, і з школы хлеб назад прыносіш. Што-ж ты гэта сабе думаеш?

**Дзяўчынка.** Ай, мамачка, няма мне калі есьці ў школе (*гартае старонкі, раптам спыняецца*). Літара яць пішацца ў такіх словах: бег беда, белы, бес... ((*Цішэй паўтарае*) Бег, беда, белы, бес...

**Маці.** А што-ж ты, дачушка, на пераменцы робіш? Узяла-б ды зьела.

**Дзяўчынка.** На пераменцы, мамачка, я ўрокі вучу. Няма мне часу гуляць.

**Маці.** Божухна! (*Матае галавой*). Дома вучыць, у школе вучыць, удзень вучыць, уночы вучыць, на пераменцы вучыць! Ды што-ж гэта робіцца з табою?!

**Дзяўчынка.** А мне, мамачка, няма каму паказваць. Усё самой трэба разьбірацца. Грышу настаўнік прыходзіць вучыць кожны вечар. А мне дык...

**Маці** (*перапыняе дачку*). Што нам, дачушка, раўнавацца да іх. Добра, што яшчэ Грышаў бацька прытулак даў нам у гэтай варыўні.

**Дзяўчынка.** Мамачка, пакіньце мяне адну. Бачыце, колькі кніг трэба ведаць напамяць. Забярэце яду—я пасьля зьем.

(*Адсоўвае міску і зноў упіваецца ў граматыку*). Яць пішацца ў такіх словах: нега, пегі, мена, пена, ехаць...

**Маці** (*бярэ міску з стравай і на-хаду перагаварвае*). Пасьля зьем, пасьля зьем... (*Паставіўшы страву каля печы, здымае з сьцяны люстэрка і варочаецца назад*). Паглядзі толькі на сябе, якая ты вырабілася: худая, зморaная, а есьці ня хочаш.

**Дзяўчынка** (*глядзіць у люстэрка*). А-ёй, і ня вельмі худая. Трохі змарылася, але адпачну пасьля экзамену. А ўвосень далей пайду вучыцца ў горад. Грыша таксама ідзе. (*І раптам нібы ўспомніўшы*). Мамачка, ідзеце куды, я буду гісторыю вучыць. (*Бярэ новую кнігу і паціху чытае*).

**Маці** (*адыходзіць паволі, уздыхае і гаворыць да публікі*). Дзіцятка маё, яно цешыць сябе далейшаю навукаю, яна раўняецца з Грышам. Ня ведае таго, што на вучэньне ў горадзе трэба шмат грошай. А ў нас тых грошай, што кот наплакаў. Купіла ўчора пяць фунтаў солі, дык сёньня зноў капейкі ў хаце няма. (*Выходзіць*).

**Дзяўчынка** (*адна. Голас яе чуецца мацней і мацней*). Імпэратар Мікалай I уступіў на прастол у 1825 годзе. (*Яна нагінаецца над сталом і вучыць далей. У гэты час нехта затупаў за вакном*). У 1825 годзе... Ён памёр у 1855 годзе у 1855 годзе... (*Адгінаецца*). Хто гэта там? (*Глядзіць у вакно*).

**Голас з-за вакна.** Зубрыш усё? Гуляць хадзем.

**Дзяўчынка.** Не магу, Грыша. Яшчэ гісторыю сёньня ня чытала. Зайдзі ты ў хату.

**Хлопчык** (*высунуўшы галаву ў вакно*). Я на рэчку гуляць іду.

**Дзяўчынка.** Зайдзі на хвілінку ў хату.

**Хлопчык** (*зьнікае з вакна, чуваць тупат за сцэнаю*). Іду. (*Адчыняюцца дзьверы, уваходзіць чыста адзеты хлопчык*). Ты адна ў хаце сядзіш, а на дварэ такая слаўная пагода.

**Дзяўчынка.** Адна. Садзіся ты ды будзем разам вучыць.

**Хлопчык** (*скоса агледзеўшы хату, табурэткі, не садзіцца*). Фі, я буду з табою вучыць! Унька мне кожны вечар настаўнік прыходзіць займацца, ды і то я ўцякаю.

**Дзяўчынка.** А як-жа ты экзамэн здасі, калі ня будзеш ведаць усяго?

**Хлопчык** (*махае рукою*). Фі, нашла аб чым бедаваць. Тата гаварыў ужо з настаўнікам. (*Важна*). Здам... А ўвосень вучыцца ў горад паеду.



**Дзяўчынка.** І я здам. Вывучу... І вучыцца мяне тата пусьціць.

**Хлопчык.** А дзе твой тата грошы возьме настаўніку заплаціць?

**Дзяўчынка.** За што?

**Хлопчык** (*усьміхаецца*). За што? Каб экзамен здаць. Мой тата, казаў, дасьць добры гасьцінец настаўніку.

**Дзяўчынка** (*праз сьлёзы*). Дык ты за грошы купіш пасьведчаньне, каб далей вучыцца?

**Хлопчык.** А табе злосьць? Ха-ха-ха!

**Дзяўчынка.** А я добра вывучу ўсё ды і здам экзамен.

**Хлопчык.** Не забывайся, што вы парабкамі ў нас служыце. Хваціць з цябе і сельскай школы.

**Дзяўчынка.** А вот і пайду. Паглядзіш, пайду...

**Хлопчык.** Вучонаю хочаш быць?

**Дзяўчынка** (*раззлавана*). Хачу і вывучуся. Мяне тата пускае.

**Хлопчык.** Фі-і, тата пускае. А грошы ў твайго таты ёсьць? Ты спытай у яго раней... Ён нам яшчэ за доўг не адрабіў.

**Дзяўчынка** (*плачучы*). Ідзі, не мяшай мне вучыць. У нас няма за што купіць пасьведчаньня, як у вас. Мне трэба рыхтавацца да экзамену.

**Хлопчык.** Дык і рыхтуйся. Будзеш вучонаю... (*Сьмяецца*). Ха-ха-ха... (*Расьцяжна*). Ву-чо-на-я Ма-рыль-ка! (*Выходзіць*).

**Дзяўчынка** (*трохі супакоіўшыся*). Яго і настаўнік вучыць ходзіць, а ўсёроўна нічога ня ведае. Выйдзе да дошкі задачу разьвязваць, напіша яе і стаіць як балбес. (*Зачыняе акно*). Ідзі к чорту. Паніч такі-та! Рызыкант! Цьфу! (*Бярэ і вучыць закон божы*). У Адама было два сыны: Каін і Авель. Бог ня прыняў Каінавай ахвяры і Каін забіў са злосьці брата Авеля, брата Авеля. Тады нарадзіўся ў Адама і Евы яшчэ адзін сын Сіф. У Адама і Евы было тры сыны: Каін, Авель і Сіф... Авель, Каін і Сіф.. (*Схіляецца над кніжкай і паціху вучыць*).

ЗАСЛОНА.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

**Паказваецца 1932 год. Пакой прыбраны чысьценка. На сьцяне партрэт Леніна. Плякат які-небудзь. Каля сьцяны стаіць стол, табурэткі, або крэслы. На паліцы кніжкі, газэты, часопісі. Маці маладая, загарэлая. Дзяўчынка і хлопчык.**



**Дзяўчынка** (*убягае ў хату з часопісьсю „Работніца і калгасьніца Беларусі“*). Мама, мама, мамачка, паглядзец адно!

**Маці.** Што такое?

**Дзяўчынка** (*кідаецца да маткі*). Ай, якая ты слаўная, мамачка!

**Маці.** Што там такое, кажы. Чаго ты радуешся?

**Дзяўчынка.** Вы чыталі „Работніцу і калгасьніцу“? Апошні нумар, чыталі?

**Маці.** Не. Толькі-ж лістаносец падаў, мне ня было калі...

**Дзяўчынка.** Ня было калі, ня было калі. Кідайце ўсю работу ды глядзеце хутчэй! Пра вас напісалі. (*Паказвае маці часопіс і чытае*). Найлепшая брыгадзірша Марыля Цупрунок. Глядзеце, ваш партрэт надрукавалі.

**Маці** (*усьміхаецца, гледзячы на разгорнутыя старонкі*). Ды што-ж гэта яны сабе надумалі. Няўжо ў нас лепшых няма?

**Дзяўчынка** (*горда*). Мусіць-жа няма. Паслухайце, што пішуць: „Марыля Цупрунок па-сумленнаму адносіцца да працы. Шчыра працуе ў брыгадзе, перавыконвае свае заданьні. Яна зьяўляецца добрым калгасным арганізатарам працы. Толькі малапісьменнасьць шмат перашкаджае ёй разгарнуць работу сярод другіх калгасьніц“.

**Маці.** Дык я-ж на вячэрнія курсы малапісьменных хаджу.

**Дзяўчынка.** А гэта пісана тады, калі вы яшчэ не хадзілі.

(*Убягае хлопчык*).

**Хлопчык** (*весела*). Скарэй, Зінка, зьбірайся, а то спозьнімся. Усе ідуць ужо.

**Дзяўчынка.** А ты паглядзі—пра нашу маму напісалі.

**Хлопчык** (*разглядае часопісь*). А на партрэце, цётка, вы як жывыя. (*Чытае скоранька сам сабе*). Праўду напісалі. Было за што пахваліць... Хадзем, цётка, з намі ў школу. Мы сёньня спэктакль цікавы ставім... Паглядзіце нашу насьценгазэту Там пра мяне і пра Зінку напісана.

**Маці.** За што-ж вас працягнулі?

**Хлопчык і дзяўчынка** (*разам*). І саўсім не працягнулі.

**Хлопчык** (*паважна з гонарам*). Лепшыя ўдарнікі вучобы! (*Паказвае на сябе і Зінку*). О, хто мы! Яна мне памагае, а я ёй. Вучым разам заданьні. Вясною ў чацьвертую групу найлепшымі вучнямі перайшлі і далей так пойдзем, покуль вучонымі ня станем.

**Маці.** У шчасьлівы час вы, дзеткі, жывяцё. Вы можаце дасягнуць свайго. Гэта-ж у калгасе сямігодка, бяз клопату хадзі кожны дзень з дому. У раёне—тэхнікум. Вучыся адно. (*Уздыхае*). Я некалі таксама марыла вучонаю быць, ды неўдалося.

**Хлопчык.** Чаму? Захварэлі, ці што?

**Маці.** І не захварэла, дзеткі, і вучылася добра, а пачатковай школы ня скончыла нават. На экзаменах зрэзалі. Параблытала адамавых сыноў з ноевымі. У аднаго было тры і ў другога тры. Толькі імёны розныя.

**Хлопчык.** А на што іх трэба было ведаць?

**Маці.** Навука, дзеткі, такая была. Сьвятых вывучалі, цароў розных, калі нарадзіўся, калі памёр. А літара яць (*ківае галавою*) от заразала. Бывала даруюць, калі склонаў ня ведаеш, а за „яць“ на калені паставіць настаўнік. Дзьве-тры гадзіны на грэчцы адстаіш...

**Дзяўчынка.** А нам, мамачка, пра гэта не гавораць нічога. Мы цяпер ня вучым такой бязглузьдзіцы пра багоў ды сьвятых. Мы вывучаем навукі, патрэбныя для жыцьця.

**Хлопчык.** І рыхтуемся ў школе, каб стаць добрымі, сьвядомымі рабочымі, калгасьнікамі, тэхнікамі, вучонымі...

**Маці.** Вы шчасьлівыя, дзеткі. Вы ведаеце, на што патрэбна ваша навука. А гэта самае важнае.

**Хлопчык.** Дык вы болей і ня вучыліся?

**Маці**. Не, сынок. Навуку куплялі тады за грошы. А дзе мне, дачцы батрака, было ўзяць іх, калі ледзь пражывалі.

**Дзяўчынка**. Я пайду паліто вазьму. (*Выходзіць*).

**Хлопчык**. Як гэта за грошы куплялі навуку?

**Маці**. А так: хто быў багаты ды знатны, дык той і мог вучыцца, а бедным дарога была зачынена.

(*За сцэнаю чуваць далёкія гукі песьні „Никто пути пройденного у нас не отберет“*).

**Дзяўчынка** (*убягае*). Хадзем. Я гатова. Мама, чаму-ж вы ня зьбіраецеся?

**Хлопчык**. Скарэй, цётка. Мы пачакаем ды пойдзем разам.

**Маці**. Ідзеце, дзеткі, адны цяпер. Я падыду зараз.

**Хлопчык**. Адно ня баўцеся. Хадзем, Зінка. (*Выходзяць*).

**Дзяўчынка** (*перад дзьвярыма, сьпявае на матыў „Никто пути пройденнного“...*).

Мы дзеці рэвалюцыі,
Кастрычніка сыны.
(*За сцэнай*).
Ў дзень радасьці кіпучае
На сьвет зьявілісь мы.

(*Чуваць паўтарэньне* „Мы дзеці рэвалюцыі“...).

ЗАСЛОНА.

## УВАГА ДА ПАСТАНОЎКІ

**П'еску „ДЗЬВЕ ШКОЛЫ“ можна скарыстаць для пастаноўкі ў час сьвяткаваньня 15-й гадавіны Кастрычніка.**

**Гэтая п'еска будзе зразумела і для дзяцей малодшага ўзросту—акцябрат. Толькі трэба, каб настаўнік перад пастаноўкай кораценька расказаў дзецям аб ранейшай царскай школе. Варта расказаць пра такія „навукі“, што ўпамінаюцца ў першай дзеі п'ескі, завастрыўшы ўвагу на тое для чаго і каму патрэбны былі такія навукі. Нарэшце—некалькі слоў пра нашу школу, пра задачы вучняў у сувязі з пастановай ЦК партыі .**

**Папоўніць пастаноўку можна дэклямацыяй вершаў пра сьвята Кастрычніка, школу і інш.**

**П'еска „ДЗЬВЕ ШКОЛЫ“ напісана А. Прусінаўскім паводле інсцэніроўкі А. Іркутава „ПЕРВАЯ УЧЕНИЦА“.**

 Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2463 5.900 экз Уп. Галоўлітбелу №а—5.

## ЦІ ДОБРА РОБІЦЬ ЯНКА

Ёсьць у нашай школе ячэйка юных бязбожнікаў. Янка—старшыня ячэйкі.

На лекцыі прыродазнаўства настаўніца гаварыла пра сяўбу. Казала, калі трэба сеяць, як павялічыць ураджай, што гаворыць навука аб гэтым і што папы. Папы выступаюць супроць навукі, бо навука выкрывае іхную хлусьню.

А Янка ў гэты час перапісваў членаў ячэйкі бязбожнікаў. Ён нічога ня чуў.

А калі спыталася потым у яго настаўніца, пра што гаварылі — Янка нічога ня ведаў.

## ЧАМУ КОЛЯ НЯ БЫЎ У ШКОЛЕ

Мы спыталіся ў Колі:
»Чаму ты ня быў у школе?“
Коля з гонарам сказаў:
»Імяніны я спраўляў!“

* * *

## ДЗЕЦІ!
## БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА СУПРОЦЬ РЭЛІГІІ І ЯЕ ВЫДУМАК

## ПОП—ВОРАГ КОЛГАСУ



Поп Шыманскі страшыць калгасьнікаў.

— Калі будзеце араць трактарам, нічога на полі ня вырасьце, бо зямля будзе сьмярдзець газаю.

Пара ўжо зачыніць царкву і выгнаць папа — ворага калгасу.

Што робіць ячэйка бязбожнікаў калгасу?

## ТРЭБА ДАПАМАГЧЫ ВОЛЬЦЫ



*У Волькі ёсьць бабка Даміцэля. Гэта бабка прымушае Вольку маліцца богу. Ня пускае яе ў дні папоўскіх сьвят у школу.*

*Нам трэба схадзіць да бабкі Даміцэлі і растлумачыць ёй, што яна прыносіць вялікую шкоду Вольцы. Гэтым мы дапаможам Вольцы.*

Выданьне групы акцябрат і школы
РЭДАКТАР—РЭДКАЛЕГІЯ.

# ПЕСЬНЯ ПРА СЯУБУ БАЛЬШАВІЦКУЮ

Верш Т. Кляшторнага



Калі дзень усьмешкай
ласкавай
Страпянуўся над сялом—
Адгукнуўся першай ластаўцы
Гучным рэхам першы гром.

Пад грымоты пяруновыя
Радасьць ветлая імжыць;
Значыць сокамі вясновымі
Дождж зямлю прышоў паіць.

І ня трацім часу марна мы...
Дождж з вясной
пасябраваў—
У палёх ідзе па-ўдарнаму
Бальшавіцкая сяўба.

І дарэмна, як бяздомныя,
Так як самы прыкры сьпеў,
Стогнуць бомы вялікодныя
У пакінутай царкве.

Наша радасьць—песьні
майскія,
А ня гэты прыкры стогн;
Ні калгасьніц, ні калгасьнікаў
Ня прывабіць сёньня ён.

І дзяцей сьвяткамі шкоднымі
Не атруціць гэты час...
Дзень дурману вялікоднага
Будзе сэйбітам у нас.

# ЯК ПОП ЖЫВЁЛУ ЛЯЧЫЎ

## П'ЕСКА ДЛЯ ДЗІЦЯЧАГА ТЭАТРУ

Дзеці, гэта п'еска адменная ад другіх. Тут галоўную ролю адыгрываюць ня людзі, а цені.

Каб паставіць гэтую п'еску, трэба зрабіць з тонкага прасьціраадла заслону на дзьвярах, што злучаюць два пакоі. У адным пакоі будуць гледачы, а з другога—паказваюцца на палатне цені.

На вышыні аднаго-двух мэтраў ад падлогі ўмацуйце ўпоперак дзеравяны кіёчак, да якога прывяжэце або прыбеце коўдру. Гэта патрэбна дзеля таго, каб гледачы ня бачылі ценяў тых дзяцей, што будуць паказваць фігуркі на другім баку заслоны. Лямпу трэба павесіць так, каб цені ад фігурак не расплываліся, а былі выразнымі. Замест апусканьня заслоны можна зачыняць дзьверы.

Намалюйце фігуркі на картоне па ўзорах, што зьмешчаны ў часопісі. Павялічце іх разьмеры да 18—20 сант. (ня лічачы падстаўкі, за якую фігурка трымаецца ў руцэ) і акуратна выражце. Умацуйце асобныя часткі фігурак гэтак, як паказана на малюнку № 1, і таргайце ў часе пастаноўкі за нітачку. Рэшту малюнкаў—карову, гусей, сялян і інш.—зрабеце самі. Можна перамаляваць з кніжкі. Зрабеце іх па такіх узорах, як і іншыя малюнкі. У час паказу ня трэба шмат гаварыць. Галоўная цікавасьць гэтай гульні ў рухах фігурак, а ня ў словах.

Для паказу гэтае п'ескі патрэбна чатыры чалавекі: два за заслонай рухаюць фігуркі, трэці дапамагае ім (падае і забірае назад фігуркі, мяняе дэкарацыі) а чацьверты—апавядае.

Усю работу праводзьце разам з настаўнікам.



Малюнак № 1







## I МАЛЮНАК

Дэкарацыі: дрэва, невялічкі плот (глядзі малюнкі). Уздоўж экрана (заслоны) паволі паўзе карова з апушчанаю галавою, а за ёю ідзе бабулька Арына, паганяючы карову. Пакуль фігуры перасоўваюцца, апавядальнік гаворыць:

— Захварэла ў бабулькі Арыны кароўка Лыска. Ледзь ходзіць, ня п'е, ня есьць.

Калі бабулька з караваю зьнікаюць, у тым-жа напрамку ідзе конь, а ўсьлед за ім дзед Якім з бізуном.

Апавядальнік. Захварэў у дзядулі гняды, ледзь на нагах стаіць, ня п'е, ня есьць.

## II МАЛЮНАК

Тая-ж дэкарацыя.

З аднаго боку зьяўляецца бабулька Арына, а з другога—Матруна (маладая сялянка—калгасьніца). Спаткаўшыся на сярэдзіне экрана, спыняюцца і, размахваючы рукамі, гутараць. Бабулька скардзіцца:

— Кароўка захварэла, трэба да бацюшкі схадзіць, ён богу памоліцца, можа кароўцы лягчэй стане.

Матруна сьмяецца:—Якая справа богу да твае каровы ды і дзе ты бачыла бога? Завяла-б карову лепей да доктара, вэтэрынарам ён называецца. У мяне сьвіньня захварэла, дык я ня ў бога дапамогі буду прасіць.

Разыходзяцца ў розныя бакі: бабулька да папа. Матруна да доктара.

## III МАЛЮНАК

Сустрэча дзеда Якіма са Сьцяпанам (малады селянін). Спрэчка паміж імі. У Сьцяпана захварэла каза. Ён вядзе яе да вэтэрынара, а дзед ідзе да папа:

— Бліжэй, як бог, нікога няма, хай бацюшка памоліцца, можа гнядому лягчэй стане.

Заслона



## IV МАЛЮНАК

Дэкарацыя: ганак папоўскага дому. Бабулька ідзе праз увесь экран да ганку. Спыняецца. Поп выходзіць на ганак.

**Апавядальнік** (гаворыць за бабульку). Дапамажы, бацюшка, твая малітва да бога даходзіць. Кароўка ў мяне здыхае, як я без яе жыць буду.

**Поп.** Памалюся, памалюся, толькі-ж дарма і вош ня кусае. Прыгані парачку гусей.



Бабулька ідзе каля ганку і зьнікае зусім. Зьяўляецца дзед Якім. Паўтараецца тая-ж сцэна з папом.

**Поп.** Памаліцца, то памалюся, толькі ж дарма і вош ня кусае, прынясі мне за працу маю парасё, ды каб тлустае.

Якім зьнікае за ганкам, поп ідзе ў хату.

## V МАЛЮНАК

Бабулька гоніць перад сабою пару гусей (яны гагочуць).

**Пападзя** (выходзіць на ганак і гаворыць). За падачку і бог дапамагае.



Бабулька зьнікае за ганкам. Зьяўляецца дзед Якім, ён гоніць перад сабою парасё (тое рохкае). Пападзя сядзіць на ганку і гаворыць:

— За падачку і бог памагае.

## VI МАЛЮНАК (там-жа).

Поп моліцца, пырскае „сьвятою“ вадою. Перад ім стаіць карова, конь, бабулька і дзед (адзін за адным у рад).

Поп. Госпадзі, памілуй рабоў божых Лыску і Гнядога.

Карова рыкае, конь іржэ і махае галавою кожны раз, як поп пырскае на яго „сьвятою“ вадою. Паколькі фігур шмат і трымаць іх трудна, трэба прымацаваць іх да нізу экрану і торгаць за нітачкі.

З а с л о н а.

---

## VII МАЛЮНАК

Дэкарацыя: вугал хаты. На прызьбе сядзіць бабулька, перад ёю дзед (прыкалоць усё гэта да экрану). Расказваюць адзін другому пра сваё гора: у бабулькі здохла карова, у дзеда — конь. Не дапамаглі папоўскія малітвы. Каля іх праходзіць і зьнікае за хатаю Матруна са сьвіньнёю (тая весела задрала лыч і варушыць хвастом), а затым Сьцяпан з казою (тыя-ж рухі).

Апавядальнік. Вэтэрынар дапамог і сьвіньні і казе. Бабулька і дзед бядуюць, што пашлі не да доктара, а к папу.

## VIII МАЛЮНАК

Ганак папоўскай хаты. Падыходзяць бабулька і дзед, махаюць рукамі, патрабуюць назад гусей і парасё. З хаты выходзіць пападзя і, спалоханая, хаваецца назад. Выходзіць поп.

Бабулька і дзед. Здохла наша жывёла, не памагаюць твае малітвы, аддавай назад нам гусей і парасё.

Поп. За грахі вашы пакараў вас бог літасьцівы. А парасё і гусей зьеў я за спасеньне душ вашых грэшных. Ідзеце з мірам, на тым сьвеце заплаціцца вам.

Дзед і бабулька (крычаць). А табе на гэтым сьвеце заплаціцца за працу тваю!

Б'юць папа.

З а с л о н а.

# У ГАСЬЦЯХ У ДЗЯДУЛІ ДУРАВА

**Дураў—вялікі вучоны, муштравальнік жывёлы. Яго работа—гэта сапраўдныя цуды навукі. Не папоўскія „цуды“ і хлусьня, а толькі навука дае чалавеку карысьць.**

## ГАВОРКА З ВОЎКАМ.

Уваходзім у вялікі пакой. У пакоі поўна дзяцей і дарослых. Гэта экскурсіі піянэраў, школьнікаў і дарослых прышлі палюбавацца на вучоных зьвяроў. Пры нашым зьяўленьні ўсе змаўкаюць. Ціхі шэпт дзяцей даносіцца да нас.

— Дзеці,—сказаў Дураў,—хочаце, я зараз з воўкам буду гаварыць?

— З во-ўк-ам?

— Так, з воўкам! Вось слухайце!

Дзядуля Дураў стаў воддаля ад аднае клеткі. З рота Дурава раптам вырвалася жудаснае воўчае выцьцё:

— А-у-у-ій!

Воўк усхапіўся. Воўк падбег да прантоў клеткі. Воўк нязлосна адказаў на выцьцё дзядулі Дурава.



Паміж Дуравым і воўкам пачалася гаворка на воўчай мове.

Воўк-то добрадушна бурчэў, то злосна ляскаў клыкамі, то, становячыся на пярэднія лапы, працяжна выў.

— Кожная жывёла мае сваю мову. Трэба яе толькі вывучыць.

— Дзядуля Дураў, а вашага пеўня можна паглядзець? —спытаў хлопчык.

— Можна, дзеці. Хадзем за мною.

## ПЕВЕНЬ ТАНЦУЕ.

Дзядуля Дураў увайшоў у адну з клетах. У клетцы жылі сабакі, кошкі і певень.

— Ну, Пеця, станцуем,—сказаў Дураў.

Заіграла музыка.

Певень, перабіраючы нагамі, пачаў танцаваць.

Дзеці зачараваныя глядзелі то на пеўня, то на дзядулю Дурава.

Музыка перастала іграць.

— Ну, Пеця, хопіць. Марш на сваё месца,—сказаў дзядуля Дураў.

Пеця нехаця зайшоў у сваю клетку. Толькі, калі за пеўнем зачыніліся дзьверы клеткі, хлопцы, нібы прачнуўшыся ад сну, усклікнулі:

— Вось гэта дык певень!

— А колькі трэба часу, каб вывучыць яго танцаваць?

— Ды гэта-ж цуды!

— Цудаў няма,—засьмяяўся дзядуля Дураў.—Цуды гэта выдумкі папоў і багатых.

## САБАКА-МАТЭМАТЫК.

— Поля, прышлеце мне майго Рыжыка,—сказаў Дураў.

Лашчачыся да Дурава, падбег рыжаваты сабака.

— Ну, Рыжык,—сказаў дзядуля Дураў,—колькі будзе два разы па два?

Сабака брахануў чатыры разы.



— Дзеткі, што вы хочаце, каб прарабіў сабака? Я ня буду гаварыць яму, а я буду ў думках загадваць.

— Я хачу, каб ён узяў маю хустачку,—сказала адна дзяўчынка.

— Няхай ён пазяхне.



— Скажэце яму, каб ён на другой усходцы лесьніцы спыніўся.

— Добра, дзеткі, зараз.

Дзеці недаверліва сачылі за ўсімі рухамі дзядулі Дурава, ці не пакажа ён якімі небудь знакамі, што трэба прарабіць сабаку. Але не. Дзядуля Дураў адвярнуўся ад сабакі.

Сабака агледзеў разумнымі вачыма ўсіх, што стаялі ў кругу, падышоў да дзяўчынкі, узяў з яе рук хустачку, пасьля пазяхнуў, вышаў з круга і пашоў па лесьніцы. На другой усходцы сабака спыніўся.

— Ну, вось, бачыце, ён прарабіў усё тое, што вы пажадалі, — сказаў дзядуля Дураў.

— Але, ну і дзіўна!

— Вучоны сабака...

— Дзеці, слухайце, што я вам скажу,—хлопнуў у далоні дзядуля Дураў.

Усе павярнуліся тварам да яго.

— Дзеці, абяцайце мне вось што: ня біць жывёлы, не баяцца яе. Ну, як, абяцаеце?

— Абяцаем, дзядуля, абяцаем!

## ВУЧОНЫЯ РЫБКІ.

Падышлі да аквaрыума (шкляная пасудзіна), Дураў зьняў фіранку. Рыбкі хлынулі да шкла.

Дзядуля Дураў працягнуў руку направа.

Рыбкі паплылі за рукою.

Дзядуля Дураў працягнуў руку налева. Рыбкі павярнуліся налева.

Дзядуля Дураў апусьціў руку ў акварыум. Рыбкі ўсе рушыліся да яго рукі і пачалі праплываць паміж пальцамі.

— Ну, вось бачыце, як мае рыбкі мяне любяць? Любяць мяне, як вы бачылі і другія жывёлы. Чаму-ж яны мяне любяць? Як я вам ужо гаварыў, я з імі добра абыходжуся. Я вывучаю прывычкі кожнае жывёлы, яе асаблівасьці, стараюся скарыстаць іх на дапамогу чалавеку.

Тут кожны з вас бачыць, што калі такіх маленькіх зьвяркоў можна навучыць шмат чаму, то тым больш можна навучыць буйных жывёлаў.

# ЮНЫЯ БЯЗБОЖНІКІ

П'еска А. ЦІТАВАЙ*)
Малюнкі ДАВІДОВІЧА

Поп. Ну, Хадора, няхай дачка палепшае, а мне яшчэ да Піліпа зайсьці трэба. Каму сьвята, а мне і ў сьвята адпачыць некалі. (*Хадора цалуе яму руку, таксама і бабка і Яўтух*). Ты-ж, Хадора, абяцанага не забудзь (адыходзіць да дзьвярэй). Ня скупіся толькі, Хадора, сама ведаеш, як цяжка нам усё дастаецца.

Хадора. Дзякую, бацюшка, во як дзякую. Сёньня ўвечары прынясу ўсё, што абяцала. У мяне гэтага няма, каб падмануць.

Поп. Ну, глядзі-ж! (*Выходзіць*).

Бабка. Пайду і я, галубка, давай вадзіцу тую, а ўвечары прыду— памыем яе. Дасьць бог, і палепшае дачка. Кхе, кхе, кхе! Бывай здаровенька! (*Выходзіць. Яўтух у гэты час надзеў шапку, вышаў і зноў увайшоў у хату*).

Хадора. Зьбеглі вось недзе дзеці. Палуднаць пара. Можа ты, Аленка, зьясі чаго крыху?

Аленка. Не, ня хочу.

Маці. Перад сьвятам як не давала скаромніны апошні тыдзень, дык усе прасілі, усе хацелі, а як нагатавала сёньня гэтулькі, дык ніхто ня просіць. Ведаеш, Яўтух, пасядзі хвілінку ў хаце, а я занясу зараз бацюшку сала ды апошняе сьцягно. Па загуменьні пайду. А адтуль зайду да Тацяны. Кажуць, у яе нейкае зельле ёсьць. Можа-б яна Аленцы дала. А пабачу Івана з Сьцёпкам, дык я іх дахаты паганю.

Яўтух. Ну, ідзі, пасяджу. (*Хадора адзяецца, бярэ посьцілку і выходзіць*).

Яўтух (*пяе сам сабе, глядзіць у вакно. Аленка стогне*). Ці не Андрэй гэта пайшоў? Куды-ж гэта ён з гармонікам. Трэба пайсьці паглядзець. (*Выходзіць*).

Аленка (*стогне*). Мама, вады! Мамачка, дрэнна мне. Ой, ой, ратуйце вы мяне. (*Уваходзіць Іван, Кастусь і Дора*). Мамачка, вады дай, мама!

Іван (*дае вады*). Шукай, Дора, хустку ды кажух. Надзявай хутчэй Аленку. Я пасаблю. А ты, Кастусь, ідзі каня глядзі. (*Дора шукае хустку і кажух*).

---

*) Канец. Пачатак глядзі ў № 5.

Кастусь. Няхай лепш Дора да каня ідзе, а я пасаблю табе Аленку вынесьці. Надзявай хутчэй Аленку, Дора, ды ідзі да каня.

Дора. Зараз, зараз (*адзяе Аленку, Іван пасабляе*).

Іван. Во дзядзькавы валёнкі. Ну, бяжы, Дора, да каня, а то, каб не адарваўся ды ня ўцёк. Толькі, каб мама з дзядзькам ня ўбачылі, як паедзем. Але я добра іх упільнаваў: адна да папа са сьцягном па загуменьні пацягнулася, а другі за гармонікам усьлед пайшоў. (*Дора выходзіць*).

Аленка (*стогне*). Куды вы мяне павязіце?

Іван. Ня бойся, Аленка, у бальніцу цябе завязем, паправішся там хутка, а тут пямрэш з гэтымі лекамі. Бярыся за маю шыю і за Кастусёву. Садзіся во так. (*Выносяць Аленку. Сьцёпка ўвесь час круціцца каля іх. Глядзіць у вакно*).

Заслона.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Праз два тыдні. Тая-ж хата. Маці і дзядзька Яўтух.

Маці (*глядзіць у вакно*). Зараз павінны прыехаць. Добра, што тады Іван завёз Аленку ў бальніцу, а то не ачуняла-б яна. Ну, і сорамна-ж мне было ад людзей, як выгаварваў мне доктар! Во дзе сорамна было! У яе, кажа, дыфтарыт, а вы яе ад спужаньня мыць хацелі ды крыж пасьля яе Сьцёпку цалаваць хацелі даць. Як вам ня сорамна! Гэты хлапец (*пакозваў доктар на Івана*) разумнейшы за вас. Яно і праўда. Вось і палепшала Аленка. Зараз вось і дамоў прыедзе. (*Дзядзька ў гэты час сядзіць на лаўцы, калупае ў носе, калі-ні-калі махае рукой на словы Хадоры, пазяхае, хрысьціцца, заплюшчвае вочы*).



Яўтух. Пусьціла ў распусту дзяцей. Што хочуць, тое і робяць. Панавесілі во чарцей у хаце, а ты глядзі. Цьху, ды ўсё.

Матка (*падыходзячы да вакна*). Здаецца, ці ня едуць? Едуць, едуць! (*надзяе кажух*). Хадзем, Яутух, паможам ім.

Яўтух. Прыехалі ўжо свае парадкі наводзіць. Не пайду я.

Самі ня зломкі ўсё зрабіць. Дарослых вучыць умеюць. Пасабляць ім? Няма дурных. (*Сеў за стол і апёрся рукамі*). Прыехалі ўжо... (*Маці выходзіць. Праз хвіліну ўваходзіць маці і Аленка*).

Маці. Распранайся, дачушка. Зьмерзла, нябось? Давай я пасаблю адшпіліць.

Аленка. Я ня зьмерзла. Надвор'е лёгкае ды і недалёка. Хутка даехалі. Конь шпарка бег. Ах, мамачка, як я рада, што дамоў прыехала, што я паздаравела ўжо (*цалуе маці*). Мне Іван казаў, што ў школу хадзіць ужо буду. (*Глядзіць на дзядзьку*). Добры дзень, дзядзька! Што ты нешта як сярдзіты?

Яўтух. Няма чаго і не сярдзіцца. Пра школу ўспомніла, а пра царкву, нябось, не. А дзе, каб сказала: во паздаравела, дык у царкву з дзядзькам пайду, паслухаю як ён там сьпявае (*пяе: госпадзі памілуй, госпадзі памолімся*). Цьху, ды і ўсё.

Маці. Аленка, ідзі на печку пагрэйся, а я зараз есьці дам. Во і Іван ідзе. Сьцёпка нешта недзе загуляўся. Ня бачыў як вы прыехалі. (*Уваходзіць Іван*).

Іван. Ну, да нас цэлая гурба дзяцей сыпле. І Сьцёпка з імі.

Маці. Гэта ўбачылі, што вы прыехалі. (*Чутны галасы, потым шагі. Аленка падбягае да вакна. Яўтух, апёршыся на локці, сядзіць ля стала. Уваходзіць Кастусь, Дора і некалькі піанэраў і піанэрак*).

Кастусь. Ну, здарова, Аленка. Да змаганьня за справу рабочых— будзь гатова! (*салют*). А мы прышлі запісаць цябе і Сьцёпку ў шэрагі вучняў нашай школы. Сёньня робім абход, каб ахапіць граматай усіх дзяцей з 8-мі гадовага ўзросту. Праводзіцца ўсеагульнае навучаньне. Мы, піанэры, дапамагаем у гэтым.




Аленка. Я вельмі рада. Я хачу ў школу.

Маці. Яна-ж схварэла, няхай крыху палепшае. Дома хай пабудзе.

Дора. Ня будзьце вы, цётка, ворагам сваёй дачцы. Калі-ж ёй вучацца, калі не цяпер.

Кастусь. І Сьцёпку трэба ў школу пасылаць. Яму там лепш будзе, чым па вуліцы бегаць, з хлапцамі біцца ды сабак дражніць. Праўда, Сьцёпка?

Сьцёпка (*весела*). Я буду хадзіць у школу. Я буду кніжкі чытаць, малюнкі маляваць.

**Маці.** Ды што з вамі зробіш? Відаць вы праўду кажаце.

**Яўтух.** Ня ведаеш, што рабіць. Гані ўсіх у шыю. Цьху, ды і ўсё! (*Усе паглядзелі на яго, але ніхто яму нічога не сказаў*).

**Кастусь** Ну, цёгачка, я зараз запішу ў сьпіс тваіх Аленку і Сьцёпку (*запісвае*).

**Іван.** Ура, наша ўзяло! Ад радасьці давайце сьпяём, і зробім некалькі нумароў фізвыху.

**Усе.** Давайце, давайце!

**Іван.** Ведаю, што і тую цемру, што заняла кут, хутка зьнішчым і ў колгасе ўсе будзем: Ура!

**Усе.** Ура, ура, ура! (*Пяюць „Бабкі старыя“...* (*Глядзі зьнізу*). *Можна сьпяваць і іншыя песьні. Робяць фізкультурныя нумары. Яўтух зьдзіўлена глядзіць на піанэраў і слухае. Маці стаіць, абцірае вочы, твар радасны. Яўпух устаў, падышоў бліжэй, раскрыў рот, чэша патыліцу*).

**Яўтух.** Гэта здорава! Вось табе і чырвонаязыкія! Гэтак і я нават ня ўмею.

Заслона.

Слова А. Якімовіча
Музыка Яфімава

БАБ-КІ СТА-РЫ-Я РА-ЗАМ З ПА-ПА-МІ СТРА-ШАЦЬ НАС
ПЕК-ЛАМ. СТРА-ШАЦЬ БА-ГА-МІ. ТОЛЬ-КІ ХАЙ ВЕ-ДА-Е ВО-РАГ НАШ
КОЖ-НЫ, ШТО АК-ЦЯБ-РО-НАК Ю-НЫ БЯЗ-БОЖ-НІК, ШТО АК-ЦЯБ-
РО-НАК Ю-НЫ БЯЗ-БОЖ-НІК

# РАБОЧЫ ПАКОЙ

Стук і грук,
Грук і стук:
Тут-тук-тук!
Тук-тук-тук!
Тут працуе,
Тут працуе
Многа рук,
Многа рук.

Тут маленькія
Майстры
Робяць цацкі—
Трактары.
З дошчак,
Палак,
Нават з гліны
Робяць розныя
Машыны.

Стук і грук,
Грук і стук:
Тук-тук-тук!
Тук-тук-тук!

Тут заняты
Дзеці справай,
А ня простаю
Забавай.

І рыхтуюцца
З ахвотай
Да вялікае
Работы.



# ПАДУМАЙ

## ЗАГАДКІ

1. Бегала ліска каля лесу блізка, дзе гляне, там трава вяне.

2. Два вяпры б'юцца, грызуцца аж пена з іх ідзе.

3. Румяны Піліп да палкі прыліп.

4. Ляціць маўчыць, ляжыць маўчыць, а як памрэ, дык зараве.

5. Лес стаіць, шуміць, гаманіць—прыдуць людзі гару зробяць.

6. Круглы, як камочак, мае адно вочка, тонкі хвосточак прымацованы да пруточка.

## МАНАГРАМА

(Прыдумалі *Геніна Ф. і Цукерман*)

З „Д" — будынак
З „Б" — гук
З „Л" — прылада
З „С" — рыба

У гэтых словах канчаткі павінны быць аднолькавыя.

**ДЗЕЦІ!** Мы напісалі для вас вершык пра сяўбу. Паслалі яго ў друкарню. Вершык набралі. Але здарыўся прыкры выпадак—набор рассыпаўся. Прышлося складаць яго нанава. Аднак зложылі яго няправільна: пераблыталі асобныя радкі. Калі чытаць яго так, як надрукавалі, дык ня выходзіць у лад.

Мы раім вам, дзеці, самім выправіць памылку: пераставіць радкі вершу так, каб было ў лад.

Хто так зробіць, той будзе мець за гэта добры вершык пра сяўбу.

Ну, хутчэй за работу!

Сеньня дзень вясёлы,
Чысьціла насеньне.
Сонечны, вясеньні.
Сёньня наша школа

Ураджаю болей.
Калі чыстым збожжам
Дык зьбяром увосень
Мы засеем поле,

## Адказы на загадкі з № 4

1. Пушынку. 2. Серп. 3. З пустой. 4. Мокрыя. 5. Рак. 6. Трое. 7. Галавешка. 8. Кніга.

*Загадкі, зьмешчаныя ў гэтым нумары, прыслалі дзяткоры: Канстантынаў Ф. (Бярэзінскі р.), Піліпаў Васіль (Горацкі р.) і Вера Савіцкая (Койданаўскі р.).*

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдактары: УЛ. ШПІЦЭР.
А. ЯКІМОВІЧ.

ЦАНА АСОБН. № 18 КАП.

461

# ПОП І КУЛАК НАШЫЯ ВОРАГІ




**Па гэтых малюнках зладжэце самі апавяданьне аб прыгодах шкоднікаў бальшавіцкай сяўбы—папа і кулака.**


Друкарня імя Сталіна. Заказ № 635. 4.000 экз. Галоўлітбел 366.